Belarusan Canadian Coordinating Committee
Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады
Comité Bielorussien De Coordination Au Canada

## КАМУНІКАТ Но. 7 (81 ад 1999), СЬНЕЖАНЬ, 2003

---

### ХРЫСТОС НАРАДЗІЎСЯ ! - СЛАВІМ ЯГО !

Вітаем усіх беларусаў і людзей добрае волі з Калядамі - сьвятам нараджэньня, 25 сьнежня, Госпада нашага Ісуса Хрыста. Жадаем вам усім у добрым здароў'і і шчасьці і за рок сьвята гэтага прыждаці.

*** *** *** ***

### 29 ЛІСТАПАДА
### Ў БЕЛАРУСКІМ РЭЛІГІЙНА-ГРАМАДЗКІМ ЦЭНТРЫ Ў ТАРОНТА

29 лістапада быў надзвычайным днём для беларусаў згуртаваных вакол Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру, а гэта перадусім Згуртаваньня Беларусаў Канады (ЗБК) і БАПЦарквы сьв. Кірылы Тураўскага .

Пачаўся гэты знакаміты дзень у 10:30 раніцы багаслужбай у БАПЦ - малітвай падзякі Усявышняму за дасюлешнія асягненьні ды просьбы аб благаславенства, далейшыя накіраваньні, і дапамогу ў плённым правядзеньні заплянаваных заданьняў і ўрачыстасьцяў дня, а гэта:

1) **сьвяткаваньня 83-х угодкаў Слуцкага Збройнага Чыну ;**
2) **адзначэньня 55-х угодкаў Згуртаваньня Беларусаў Канады;**
3) **правядзеньні 39-га Агульнага Зьезду сяброу і дэлегатаў Згуртаваньня Беларусаў Канады;**
4) **сходу сяброў Канадыйскага сэктару Рады БНР.**

Усе вышэй пералічаныя падзеі былі зьвязаныя між сабою адной і той самай ніткай-ідэяй змаганьня за дзяржаўную незалежнасьць Беларусі, і плянаваньнем працы накіраванай да зьдзейсьненьбня гэтае ідэі - арганізацыяй працы на карысьць беларускае вызвольнае справы. А так як ласкавы лёс дазволіў мне быць удзельнікам падзеяў гэтага запаветнага



54 Mary St., Barrie, Ontario, Canada, L4N 1T1 Tel/Fax (705) 725- 8654

дня, хачу тут зравбіць пра яго сваеў летапісныя запіскі.

Скарбнік Канадзкага сэктару Рады БНР, пэўне-ж і сябра ЗБК, Арсень Монід у знак важнасьці дня адзначыў усіх, што прыйшлі ў залю Цэнтру, прысутных традыцыйнымі нагруднымі бел-чырвона-белымі сьцяжкамі.

Урачыстае сьвяткаваньне **83-х угодкаў Слуцкага Збройнага Чыну** пачалося адчытаньнем Кастусём Акулам сымбалічнае лісты Герояў Беларусі, якую ў знак пашаны Героям Беларусі прысутныя слухалі ўстаўшы на зважай і пасьля кожнае групы змагароў хорам казалі: «Загінулі за волю Бацькаўшчыны !».

Віталі сход прамовамі: Старшыня Рады БНР сп-ня Івонка Сырвілла, Старшыня Галоўнай Управы ЗБК др. Пётра Мурзёнак, даклад на тэму дня чытала сябра ўправы Тарантонскага аддзелу ЗБК Ірына Верабей. Яна гаварыла й пра тое, што жанчыны - маткі, сёстры, жонкі Случчакоў - вышылі на сьцягу для іх словы: «Тым, што пайшлі паміраць, каб жыкла Бацькаўшчына». Значыцьць, Случчакі ведалі, што йдуць у нявроўны бой супраць вялікае арміі Савецкае Расеі, ведалі, што йдуць на сьмерць. І хоць паўстаньне скончылася празай, яно мае для нас вялікае маралнае значэньне, сьведчыць аб тым, як казаў гісторык Алег Лукашонак, што беларускі народ здольны ў патрэбе паўстаць на вайну у абароне свае незалежнасьці.

Напасьледак гаварыла сябра ЗБК і сябра Прэзыдыюму (Ураду) Рады БНР др. Раіса Жук-Грышкевіч:

Паважаныя Старшыні: Рады БНР, Галоўнай Управы і Тарантонскага аддзелу ЗБК, Парафіі БАПЦ сьв. Кірылы Тураўскага , суродзічы беларусы й госьці !

Маю гонар вітаць вас зь беларускім нацыянальным сьвятам - **83-мі ўгодкамі Слуцкага Збройнага Чыну,** ці інакш з 83-мі ўгодкамі вайны Беларускай Народнай Рэспублікі з Савецкай Расеяй у абароне дзяржаўнае незалежнасьці Беларусі, якую абвесьціла **Актам 25 Сакавіка 1918 году** Рада БНР у Менску.

Сяньняшняе сьвята, якім мы аддаем пашану памяці тых, што пралівалі кроў і аддалі сваё жыцьцё ў змаганьні за незалежнасьць Беларусі, мае для нас, беларусаў Канады, асаблівае значэньне і таму, што сяньня мы адзначаем таксама й **55-я ўгодкі першае беларускае нацыянальнае арганізацыі ў Канадзе - Згуртаваньня Беларусаў Канады (ЗБК).**

ЗБК ўтрымалася дзейным і творчым праз больш за поўстагодздзе

таму, што базавалася ма моцнай маральнай і нацыянальнай ідэялёгіі: пашаны да саміх сябе, і ўсяго свайго роднага беларускага, пашаны да свае роднае беларускае мовы , культуры й свае гісторыі.

ЗБК выжыла і было творчым 55 год таму, што базавалася на й было прадаўжальнікам ідэялёгіі Слуцкіх паўстанцаў - змаганьня за дзяржаўную незалежнасьць Беларусі;

ЗБК пражыло 55 год і таму, што кіраўніцтва й сябры яго ў сваіх душах - сэрцах і мазгох - трымалі высока ўзьняты бел-чырвона-белы беларускі сь.цяг;

ЗБК ўтрымалася дзейным праз болей за поўстагодзьдзе таму, што старажытная ПАГОНЯ біла ў сэрцы нашы, біла мячамі, не давала чужынцамі быць.

Таму, што мы кожную нядзелю ў БАПЦаркве маліілі Бога: - «Зрабі свабоднай, зрабі шчасьлівай караіну нашу й наш народ»

Сяньня адбудзецца й ужо **39-ты Агульнаы Зьезд ЗБК.** Жадаю яму, нам усім, плённае працы, выбраць дзейныя ўправы - кіраўніцтва, каб ЗБК прадаўжала быць дзейным й творчм і ў 21-м стагодзьдзьдзі.

Жадаю вам усім добрага здароўя й духовай моцы.

Жыве Згуртаваньне Беларісаў Канады! Жыве Беларусь!

Таромта, 29 лістапада, 2003. Др. Раіса Жук-Грышкевіч

Старшынём **39 АГУЛьНАГА ЗЬЕЗДУ ЗБК** быў Алесь Кот, сакратаром - Ірына Верабей. Мандатная камісія прызнала Зьезд првамоцным. Зьезд прыняў папраўкі да Статуту Згуртаваньне Беларусдаў Канады. На старшыню Галоўае Управы ЗБК быў пераабраны др. Пётра Мурсёнак, на старшыню Управы Тарантопнскага аддзелу ЗБк была перавыбраная Надзея Дробіна. Зьзд пастанавіў, што наступная Сустрэча Беларусаў Паўночнае Амэрыкі ў 2004 годзе адбудзецца ў Татонта. Выбраны быў дзеля гэтае мэты Арганізацыйны камітэт. Зьезд даручыў Галоўнай Управе, пад кіраўніцтвам др. Пётры Мурзёнка. выслаць ад імя 39 Зьезду ЗБК ліст нашае маральнае падтрымкі кіраўніцтву, бацьком і вучням Беларускага нацыянальнага ліуцэю, зьліквідаванага рэжымам, а які прадаўжае працаваць у падпольлі. Зьезд выразіў падзяку спадарыням, якія спраўна наладзілі ў часе перапынку даўгога й надзвычай дзейнага дня полудзень, ды найлепшыя пажаданьні новаабранаму кіраўніцтву ЗБК.

39 Агульны зьезд ЗБК закончыўся агульным адсьпяваньнем

беларускага нацыянальнага гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

*** *** ***

Гаворачы пра аддзел ЗБК, прыйшла на думку зацемка ў «Беларусе» Но 490, за лістапад, 2003:

**«Ахвяравалі на ангельска-беларускі слоўнік»,**

у якой між іншага гаворыцца:

**«У памяць Лявона Наркевіча, Кастуся Каранеўскага, Васіля Прыстаўкі, Рыгора Гарадзейчыка- М. Буцька........ канадз. дал. 500».**

Як прыгожа!, падумалася мне. Хто-ж гэта М. Буцька , ды тыя памяці якіх ён шчодра ахвяроўвае на беларускую справу 500 даляраў?

**М. Буцька - Мікола Буцька ,** гэта бязь ліку даўгагадовы старшыня Судбурскага аддзелу ЗБК. Ён адзін - старшыня - застаўся ў жывых. Усе сябры аддзелу ЗБК у Судбуры ўжо паўміралі. І як прыгожа, Старшыня аддзелу чульліва успамінае сваіх супрацоўнікаў, сяброў і памяці іх дарue фінансавую ахвяру на беларускую справу.

**Кастусь Каранеўскі** - сакратар-скарбнік аддзелу ЗБК у Судбуры, найбліжэйшы супрацоўнік Старшыні - Міколы Буцька.

**Лявон Наркевіч** - сябра аддзелу, калісь маладым хлапцом быў у беларускім ДП лягеры ў Ватэнштэце, ангельскае зоны Нямеччыны. Там ён быў беларускім скаўтам і вучнем беларускае гімназіі, заснавальнікам і дырэктарам якое быў беларускі праўнік-гісторык Вацлаў Пануцевіч, муж сьв. пам. Ірэны Пануцевіч, памяці якое у 5-тым нумары «Камынікатаў» ККБК мы пісалі нэкралёг. А настаўніцай фізыкі сьв. пам. Лявона Наркевіча у Ватэнштэцкай беларусклай гімназіі была Аўтарка ангельска-беларускага слоўніка, на выданьне якога Мікола Буцька - у памяць, між іншымі, і Лявопна Наркевіча зрабіў фінансавую ахвяру.

Во !, як у беларускім жыцьці усё вяжацца між сабою, і вынікае адно з другога. Беларусь - беларускі ДП лягер у Ваыэнштэце, беларуская гімназія ў ім, вучань гэтае гімназіі у Канадзе ў Судбуры - сябра беларускае арганізацыі ЗБК; а настаўніца гэтага вучня беларускае гімназіі ў Ватэнштэце ў Нямеччыне - аўтарка ангельска-беларускага слоўніка ў Таронта, Кандзе.

Але хто яна тая Аўтарка ангельска-беларускага слоўніка, над складаньнем якога яна працавала болей 25 гадоў, болей чверць стагодзьдзя, у слоўніку-ж слоў многа..... І чаму імя Аўтаркі ангельска-беларускага слоўніка ў абвестцы не ўспамінаецца, затушоўваецца !? Чаму людзі добрыя ? !

Аўтарка-складальнік ангельска-беларускага слоўніка гэта **Валянціна Пашкевіч**, аўтарка двох тамоў англямоўнага падручніка **FUNDAMENTAL BYELORUSSIAN - БЕЛАРУСКАЯ МОВА,** рэдагаванага праф. Антонам Адамовічам. Два тамы англямоўнага падручніка БЕЛАРУСКАЯ МОВА, аўтарства Валянціны Пашкевіч, былі выданы Выдавецкім Камітэтам пры Каардынацыйным Камітэтце Беларусаў Канады ў 1974 й 1978 гадох у Таронта, Канадзе. Валянціна Пашкевіч, складалкьнік ангельска-беларускага слоўніка , на пачатку 60-х гадоў сарганізавала й праз 15 год сыстэматычна вяла беларускую суботнюю школу пры царкве Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Таронта.

**Васіль Прыстаўка й Рыгор Гарадзейчык** - сябры, а тым самым і супрацоўнікі старшыні Міколы Буцькі, аддзелу ЗБК у Судбуры. Аддзел гэты быў у свой час лічным і дзейным. Сябры яго - шахцёры, сьведамыя патрыятычныя беларусы. Рэгульярна адззначалі беларускія нацыянальныя сьвяты, як Дзень Акту 25 Сакавіка, угодкі Слуцкага Збрпйнага Чыну. На дакладчыкаў запрашалі некага з Таронта. Часта ім быў др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч. Адно сьвяткаваньне Дня Герояў Беларусі - Угодкаў Слуцкага Збройнага Чыну - у Судбуры ў 1956 годзе задакумэнтаванае здымкам у кнізе «Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча» **на бачыне 197**. Так хораша вянок кветак зь бел-чырвона-белым сьцягам для Герояў Беларусі. Сябры аддзелу ЗБК у Судбуры былі й ахвярнымі прыхажанамі БАПЦ сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта.

## Паседжаньне Канадзкага сэктару Рады БНР.

Расказаць, што гэта Рада БНР і яе сэктары - даўгая гісторыя. Зацікаўленых, а перадусім сябраў Рады БНР, адсылаю, калі так можна сказаць, да разьдзелу **«Праўныя й ідэялягічныя асновы Рады БНР»** у кнізе «Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча», бачыны 563 - 578.

Пра Сэктары Рады БНР у гэтым разьдзеле гаворыцца: «У месцы, дзе зьбярэцца трох, ці больш сяброў Рады, творыуцца сэктар рады БНР (... ) Да заданьняў сэктараў належыць:

а) сачыць разьвіцьцё палітычных падзеяў у сваім асяродку і ў дадзеным краі, сачыць прэсу ў справах Беларусі ды ў важных выпадках безадкладна інфармаваць Прэзыдыюм Рады БНР або рэагаваць адпаведна сытуацыі самім на мейсцы,

б) прыймаць пастановы ў справах рэфэрэндуму Рады БНР,

в) **рупіцца пра разьзьвіцьцё грамадзкага й палітычнага жыцьця ў сваім асяродку й краі.** Падкрэсьлена мною, бо гэта якраз

вельмі важнае заданьне сяброў сэкрату Рады БНР - сяброў сэктары Рады БНР ў Канадзе.

Сябрамі Канадзкага сэктару Рады БНР ёсьць сябры ЗБК з Гул Квэбэку, Атавы, Таронта, Лёндану, Гамільтону, Бэры й Мапле (Мэйпл) Онт.

Ува управу сэктару Рады БНР былі абрабыя: др. Пётра Мурзёнак - старшыня; Алесь Кот - сакратар і Арсень Монід - скарбнік Канадзкага Сэктару Рады БНР. Да заданьняў скарбніка належыць збор сяброўскіх складак - дзяржаўнага падатку сябраў Рады БНР і збор ахвяр на **Дар 25 Сакавіка**, які традыцыйна адбываецца на сьвяткаваньнях Дня Незалежнасці Беларусі - 25 САКАВІКА .

Традыцыя **ДАРУ 25 САКАВІКА** ўжо даўняя, створаная на **Першым Сусьветным Зьезьдзе Беларускай Эміграцыі**, што адбыўся **ў Парыжы ў 1948 годзе.** Дэталь яго зафіксаваны здымкам на бачыне 98-ай кнігі «Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча».

Вяртаючыся да тэмы, чаму Згуртаваньне Беларусаў Канады пражыло дзейным і творчым праз 55 год, болей за поўстагодзьдзе - а таму, што у вытоках яго, ад 50-х гадоў, старшынём Канадзкага сэктару Рады БНР быў Вінцэнт Жук-Грышкевіч, які ад 2-га Зьезду Згуртаваньня Беларусаў Канады ў травені 1950 году (бачына 99 у кнізе «Ж, В, Ж-Г»), і праз увесь пасьля час фармаваяў ЗБК ідэялягічна й арганізацыйна. Ніколі ня быў старшынём ЗБК, а заўсюды быў яго ным рухавіком - мазгом і сэрцам, і кіраўніком беларускага нацыянальнага, культурнага й палітычнага жыцьця ў Канадзе.

Вось вам прыклад бээнэраўскае работы сяброў сэктарау Рады БНР.

І так, уваружыўшыся дазнаньнямі й асягненьнямі падзеяў 29 лістапада, узмоцніўшы нашыя духовыя рэсурсы, мы гатовы цяпер сустракаць Каляды - сьвята **Нараджэньня Госпада Нашага Ісуса Хрыста**, Славіць **Яго** й маліць аб **Ягоную** апеку й дапамогу.

**ХРЫСТОС НАРАДЗІЎСЯ! СЛАВІМ ЯГО !**

Вітаем беларусаў сьвету й людзей добрае волі з Новым 2004 Годам. Хай-жа гэты год будзе ласкавы для нас і нашае Бацькаўшчыны-Беларусі. **ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 2004 ГОДУ!**

---

**СЬНЕЖАНЬ, 2003** — **ДР. РАІСА ЖУК-ГРЫШКЕВІЧ**
**БЭРЫ, КАНАДА** — **БЫЎШЫ СТАРШЫНЯ ККБК**

---